ДАЙДЖЕСТ

### Чечня: боевики подорвали БМП, погибли два человека

В районе населенного пункта Алхан-Кала Урус-Мартановского района Чечни на установленном боевиками взрывном устройстве подорвалась БМП. В результате взрыва сдетонировали находившиеся в БМП боеприпасы и погибли двое военнослужащих. Накануне, в результате взрыва так же погиб военнослужащий и еще четверо получили ранения различной степени тяжести.

*Лента.ru*

### Министры иностранных дел СНГ намерены не допустить обсуждения войны в Чечне

Министры иностранных дел стран СНГ согласовали в Москве общую стратегию, которая призвана не допустить критики действий России в Чечне на предстоящей в Нью-Йорке очередной сессии Генеральной Ассамблеи ООН. "Речь идет о коллективном отпоре вероятных попыток включить в повестку дня Генеральной ассамблеи вопрос о положении в Чечне", — цитирует "Интерфакс" одного из участников прошедшего в Москве заседания Совета министров иностранных дел СНГ.

### Правительство ФРГ одобрило законопроект о постепенном выходе страны из атомной энергетики

Правительство Германии приняло решение о постепенном отказе от использования атомной энергетики. Кабинет Министров одобрил проект поправки к закону об атомной энергетике, разработанный в министерстве защиты природы, охраны окружающей среды и безопасности ядерных реакторов ФРГ. Напомним, что три месяца назад федеральный канцлер Германии Герхард Шредер и руководители крупнейших энергетических концернов достигли компромиссного соглашения, согласно которому 19 действующих сейчас в стране АЭС будут одна за другой выводиться из эксплуатации в течение ближайших 20 лет.

*Немецкая волна.*

### Шарон приглашает российских евреев

Премьер-министр Израиля Ариэль Шарон в своем выступлении перед представителями еврейской общины в Москве сказал, что сейчас ведется самая упорная антисемитская кампания со времен второй мировой войны, и Израилю нужно в ближайшие несколько лет принять еще миллион евреев. По словам израильского лидера, Израиль уже принял миллион евреев из России, которые внесли большой вклад в израильское общество и зарекомендовали себя как отличные бойцы и солдаты. Иммигранты из России и других республик бывшего Советского Союза составляют около одной шестой населения Израиля.

### Перуанская прокуратура обвиняет беглого президента

В Перу прокуратура официально предъявила обвинения в убийстве бывшему президенту Альберто Фухимори в связи с серией убийств, совершенных участниками военизированной группировки в начале 90-х годов. По словам Генерального прокурора, Фухимори знал о проведении этих акций и лично наградил членов группировки. По словам корреспондентов, решение прокуратуры имеет целью оказать давление на Японию, куда в прошлом году бежал опозоренный перуанский президент, чтобы токийские власти выдали Фухимори. Япония неоднократно заявляла, что не выдаст Фухимори, который имеет японское гражданство.

### Медовый месяц японского премьера

В Японии поступила в продажу книга-фотоальбом, посвященная карьере и личной жизни премьер-министра Дзюньитиро Коидзуми. Отпечатано 80 000 экземпляров. Еще до этого в штаб-квартиру Либерал-демократической партии поступило 150 сигнальных экземпляров, которые были моментально раскуплены — в основном женщинами средних лет, которые составляют ряды его наиболее преданных сторонников. Несколько ранее стотысячным тиражом менее чем за месяц в Японии разошелся компакт-диск песен Элвиса Пресли, составленный самим премьер-министром. По словам корреспондента Би-Би-Си, однако, в свете растущих экономических проблем Японии, медовый месяц премьера с избирателями может быть недолгим.

### Уникальная инженерная операция на Филиппинах

На Филиппинах инженеры проводят рискованную операцию по спуску части воды из огромного озера в кратере вулкана, чтобы спасти окружающие населенные пункты от потока миллионов тонн воды и грязи. В склоне вулкана проложен дренажный канал. До сих пор операция проходит успешно, однако на всякий случай из района горы Пинатубо эвакуировано около 40 000 человек. По словам манильского корреспондента Би-Би-Си, подобная дренажная операция проводится впервые и сопряжена с огромным риском: поток воды и грязи в канале может стать неуправляемым, что приведет к катастрофическим последствиям. Дождевая вода копилась в кратере вулкана десять лет со времени последнего извержения, когда погибло 800 человек.

### Археологическая находка в российском Заполярье

Появились новые факты о том, что заполярные районы России были заселены по меньшей мере за 20 тысяч лет раньше, чем предполагали ученые. Археологи обнаружили каменные орудия труда и резной клык мамонта на берегу реки у северного подножья Уральских гор. Ученые определили, что находке примерно 30 тысяч лет, однако не ясно, кем были изготовлены орудия — неандертальцем или гомосапиенс. Два эти вида некоторое время сосуществовали — до исчезновения неандертальского человека во время последнего Ледникового периода.

*Би-Би-Си.*

У СУСЕДЗЯЎ

# ДРУГАЯ ХВАЛЯ ПОЛЬСКІХ РЭФОРМ

## "Сіняя" матэматыка і "чырвоная" фізіка, ці Асноўныя прынцыпы рэфармавання школы

*(Працяг. Пачатак у №№ 162,163.)*

1 верасня 1999 года большасць польскіх школьнікаў прыйшлі на заняткі без падручнікаў. Бо яны проста не ведалі, якія купляць. Настаўнікі, адпраўляючы іх на канікулы, папярэдзілі, каб ніякіх падручнікаў летам не куплялі. У той час яны самі дасканальна не ведалі, куды выведзе школьная рэформа, спрэчкі аб якой працягваліся.

Але трагедыі не адбылося. У першы дзень вучобы вучні закупілі ўсе неабходныя кніжкі ў школьнай бібліятэцы. Самі школы набылі іх цэнтралізавана. З падручнікамі адбыліся грунтоўныя змены. Калі раней куплялі "фізіку для шостага класа", "матэматыку для чацвёртага класа" і г.д., дык цяпер па кожнай праграме было некалькі падручнікаў, і ўжо школа, зыходзячы са сваіх меркаванняў, выбірала, па якіх з іх вучыць дзяцей. Так з'явіліся новыя паняцці, такія як "сіняя" матэматыка, "чырвоная" фізіка, зыходзячы з колераў вокладкі падручнікаў.

Словам, з 1 верасня 1999 года польскія дзеці пачалі вучыцца па той жа сістэме, што і іх еўрапейскія аднагодкі. Ва ўсялякім разе такая пастаўлена мэта.

Да гэтага польская школа мала чым адрознівалася ад нашай. Яна знаходзілася пад моцным дзяржаўным уплывам і кантролем, была забюракратызавана, вельмі мала было недзяржаўных школ. Праграмы былі надта перагружаны непатрэбшчынай, слаба фінансавалася сістэма адукацыі, у незайздросным стане знаходзіліся настаўнікі, нарастала іх незадаволенасць жыццём.

Спробы нешта палепшыць прадпрымаліся і раней. Спачатку ўзяліся за праграмы, каб крыху разгрузіць дзяцей. Ды пад бюракратычным ціскам не ўдалося і гэта. Вучэбныя планы аказаліся яшчэ больш насычанымі.

Было ясна, што неабходны радыкальныя змены. Гэтага патрабавала і ўступленне ў перспектыве ў Еўрапейскі Саюз, для чаго неабходна было прывядзенне сістэмы адукацыі ў адпаведнасць са стандартамі еўрапейскіх дзяржаў. Гэта азначала адмену дзяржаўнай манаполіі, дэцэнтралізацыю школ і перадачу іх органам мясцовага самакіравання, адмаўленне ад аднастайнасці школьных праграм і стварэнне ўмоў для выкарыстання некалькіх падручнікаў па адным і тым жа прадмеце, павышэнне ролі грамадскага кантролю за дзейнасцю школ і г.д.

У студзені 1998 года Міністэрства народнай адукацыі абнародавала праект рэформы школы. Яе асноўныя задачы: паляпшэнне якасці адукацыі, для чаго планавалася змяніць структуру школьнай сістэмы, яе прынцыпы кіравання і фінансавання, праграмы і экзаменацыйную сістэму. Былая двухступеньчатая структура школы мянялася на трохступеньчатую. Працягласць навучання на першай ступені — у пачатковай школе — скарачалася з васьмі гадоў да шасці. Другой ступенню станавіліся трохгадовыя гімназіі, выпускнікі якіх маглі выбіраць ліцэй. Пры заканчэнні ліцэя прадугледжваліся экзамены на атэстат сталасці і магчымасць паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Вялікай ломцы падвяргаліся праграмы. Іх асновы ўтрымлівалі толькі галоўныя стандартныя патрабаванні да школы і станавіліся адпраўной кропкай для распрацоўкі разнастайных праграм навучання, што давала магчымасць бацькам і школьнікам выбіраць школу адпаведнага накірунку і ўзроўню навучання. Немалыя захады прадпрымаліся па павышэнні статуса настаўніка і яго ведаў, паляпшэння аплаты працы.

Вынікі працы настаўнікаў і ўзровень ведаў вучняў будуць ацэньваць акруговыя экзаменацыйныя камісіі. Такая незалежная сістэма кантролю дазволіць больш аб'ектыўна ставіць адзнакі, дзякуючы чаму вышэйшыя навучальныя ўстановы змогуць разглядаць экзамены на атэстат сталасці ў якасці ўступных экзаменаў.

Пасля абнародавання праекта рэформы школы пачалася вострая дыскусія. Падтрымліваючы асноўныя палажэнні рэарганізацыі, апаненты скіравалі агонь крытыкі на іх змест. Многіх экспертаў непакоіла незадаволенасць новаўвядзеннямі ў настаўніцкіх колах, недастатковы ўзровень фінансавання адукацыі і яе якасць. Саюз польскіх настаўнікаў таксама выказаў зашмат прэтэнзій. Крытыка прагучала нават з каталіцкай царквы, якая ўказвала на тое, што рэфарматары трапілі пад моцны ўплыў Захаду і ў выніку могуць быць пахаваны польскія традыцыі. Царкву асабліва непакоіла якасць адукацыі, бо калі яна будзе невысокай, дык "пасля ўступлення Польшчы ў Еўрапейскі Саюз выхаванцы яе школы могуць не скласці канкурэнцыю сваім еўрапейскім аднагодкам".

Нягледзячы на крытыку і розныя падыходы, у ліпені 1998 года Сейм адобрыў праект паправак да Закона аб сістэме адукацыі. У снежні таго ж года парламент прымае закон, па якім старт рэформы прызначаецца на 1 верасня 1999 года. Рэформу падтрымала правячая кааліцыя, а апазіцыя аднадушна выказалася супраць.



*Расце змена.*

Яе ажыццяўленне выявіла і хібы. Так, адной з важнейшых змен меркаваўся новы прынцып фінансавання на аснове ўвядзення так званых адукацыйных талонаў, гэта значыць, выдзялення сродкаў на кожнага вучня. Але, як паказаў пачатак рэформ, адукацыйныя талоны трапілі ў распараджэнне органаў мясцовага самакіравання, а не да бацькоў вучняў. Не да канца зразумелы прынцыпы руху настаўнікаў па службовай кар'еры і г.д.

Такім чынам, рэформа ідзе, яе крытыка і ўдасканаленне працягваецца.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

*(Заканчэнне будзе.)*

КАРТИНКИ С НАТУРЫ

# Что общего между сапогами Жириновского, палочкой сенатора и прочей джамахерией?



С умопомрачительной скоростью, не чета приснопамятным "пятилеткам за три года" как грибы после дождя, в последние перед выборами недели стремительно закрываются долгострои, появляются новостройки. Рапорт следует один за другим: "Досрочно, досрочно!" Впору и новый лозунг повесить на уши доверчивому белорусу: "Семилетку — в предвыборный месяц!"

Проснулись, наконец. Вспомнили. Как будто и не было семи лет одиночества.

Хочешь, к примеру, новую школу в Радошковичах — на тебе ее. К 1 сентября. С нуля. Станцию "Могилевская" досрочно пустили. Кольцевую дорогу в направлении на главнейшую область думали только к 7 ноября одолеть, но потом справедливо решили, зачем тянуть, если для людей. Да и выгода к тому же двойная: о трудящихся позаботились и на Шклов сподручнее выезжать будет.

А что цемент и асфальт не успеют схватиться — не беда. Впервой ли делать капитальный ремонт на новом объекте? Парочку лет назад какой кусок Партизанского проспекта пришлось перелопатить! Справились ведь. Да и чего стесняться, деньги-то дают. Что касается рабочей силы, так ее — завались. Второй "Беломор-канал" можно запросто построить.

* * *

Хлеба и зрелищ, говорили древние. Первое обеспечат домашкевичи и долгалевы, а о втором позаботится маэстро. Нам песня строить и жить помогает. Знамо дело. Базары, дожинки, концерты, поездки до "жинки" — любота! Славно поработал, отдыхай! А мы — тут как тут. С музыкой. И помочь тут должен, зная душу своего народа, как раз он.

Что говорить, широко шагает по славянской земле еще при жизни наш "музыкальный". Шагал со своим оркестром. Да и ученики его вдруг, в одночасье, способными и понятливыми стали. Все как один в народ подались песни петь, и, надо же, бесплатно... Месяцем бы раньше, так из-за десятки могли горло перегрызть, а тут вдруг вспомнили о Богом забытом человеке. Даже в самую глубинку лыжи (нынче модно на них) навострили, где помнят еще "Боже, царя храни". Оно действительно хорошее дело, только не забудьте с собой, песнярики вы наши послушные, хлебную лавку прихватить, а то помрут еще ваши зрители з голоду. Всякое бывает.

И что интересно: вдруг все артисты прониклись этой свежей идеей нести вечное и светлое. И ведь как подгадали: аккурат перед выборами! Впрочем, опыт был. Семь лет тому так же голосили. За другого, правда. Но пролетели. Бывает.

Неужели и сейчас осрамятся? А пока... Сиди, бабка, и слушай. Хорошенько только слушай. А за тебя подумают.

Словом, голосуй, дедка, не голосуй, все равно получишь. Художественную самодеятельность... По разнарядке.

Но, правда, не всех к большому искусству допускают. Только чистопородных признают, с печатью личной преданности. И то хорошо, хоть в лицо певцов узнают. А самых уж звездных из России, тех в столице привечают, на матче футбольном. Ну не поедет же, в самом деле, "богоравный" Газманов в деревню Пьяные Чемелы? Или земеля наш, оперный чтец Боря Моисеев в деревню Петухи...

Да, давненько мы не видали женственную Кристину, не слышали новые песни Меладзе, позабыли формы Лолиты. "Славянский базар" в Витебске продолжается. В первый раз, месяц назад, на него, сказывают, потратили больше миллиона. Дураку понятно, долларов. Видать, не все дополучили, вот и едут.

* * *

В последннее время скорый "Москва—Минск" переполнен. Очевидно, поиздержались в отпускную пору гости дорогие, а тут на халявку, под фонограмку деньжат можно загрести, страна ведь богатая.

Думцы зачастили, ученые всякие, губернаторы, бывшие клиенты "Матросской тишины" и прочих, очень отдаленных мест, с соответствующими, естественно, повадками и замашками.

Валом валят земляки (откуда их столько понабралось?), одним словом, лучшие умы одной шестой планеты переживают за нас больше, чем мы сами.

И прямиком, после общения с "горячо любимым", шасть в "Панараму ", уже даже дырку в кресле просидели. А там мастера словесного жанра:" А не скажете ли вы?..", "А что вы скажете ?.." "Да!" — отвечают им. — "Всегда!" (Кстати, я-то думал, что чайка — птица гордая, а она, сердешная, оказывается, крошки с рук клюет. Видать, по наследству передается!)

А визитеры чувствуют себя совсем как дома. Где мыть грязные сапоги: в Индийском ли океане, Свислочи ли, без разницы... Могут и в студии даже снять. Делов-то ! Да и чего выпендриваться, придумывать что-то; хозяин — он и в чужой стране хозяин, попробуй только рыпнуться. Сойдет по-любому, возьми, к примеру, свою речь двухлетней давности да поменяй, скажем, слово "конюх" на что-нибудь этакое интеграционное типа "патриот" — съедят, не заметят, не оботрутся, не побрезгуют.

Один, который в ГКЧП был, сидел и слезно просил предоставить возможность кровью вину искупить, а сейчас даже памятник к десятилетию воздвигнуть предлагает. Крестьянский сын, так тот совсем оборзел, говорит, что 80 процентов у нас голосовать будут за "кого надо". Видать, хорошо знает, как это можно подстроить. Сам ведь на второй срок пролез в губернаторы!

В мире осталось всего несколько мест, где можно без мордобоя поговорить о коммунизме. Раз, два. И, пожалуй, еще в Мавзолее. Вот и спешат, словно на похороны, впопыхах забыв надеть красную косоворотку, "кочегары" с "Авроры" в Беларусь.

Главное — успеть, вон очередь какая выстроилась. А допуск ведь скоро закончится. Кстати, есть вопросик: можно приехать по второму разу? Правда, тогда гонорар будет, наверное, пожиже.

* * *

А насчет светлого будущего... Это еще ягодки. Можно только представить себе, что будет, когда подъедет, к примеру, Федя Костров, он же Фидель Кастро, или Хусейн. К слову, "барбудо" — мастак большой. Это ж надо, столько лет мозги пудрить, да так и не собрать 10 миллионов тонн сахарного тростника... Поучился бы у наших хлеборобов! Но зато — оратор! Три слова: "Да здравствует социализм!" полдня может в речи мусолить... Правда, как ему БТ хотя бы семь часов отжалеет? Он ведь на меньшее не согласится. Или вдруг этот Каддафи из Ливии взаправду припрется? Весь мир сторонится такого визита, а для нас он, выходит, такой же родной, как Лужков и Бородин?! Смотри, куда славян занесло! Вот где потеха будет, и эта самая, джамахерия. Особливо вторая ее часть...

На болоте белорусского телевидения вдруг по осени (странно, что не весной) пышно вылупились молоденькие утята, смешные такие, что-то крякать пытаются, а те, кто понаглее, ну франты, даже пикируют... Но почему-то все на один манер, видать, произошли от одного гусачка чернявенького. Но способные. На старших смотрят, учатся. Получается. Даже вот кривят рот одинаково. Будто таким образом свое пренебрежение высказывают. Понятно, когда лицо, не дай Бог, кривое с рождения. Но зачем же так залупать уголок губ аж до самой мочки уха? Это что: дань моде или нечто другое? Так ведь еще молоко на губах не обсохло. А вдруг застынет? Смотрите, останетесь такими криворотенькими и убогенькими на всю жизнь. А она ведь еще не заканчивается. За девятым обязательно наступит десятое...

**Владимир ДОВЖЕНКО.**

ЛІКБЕЗ

# ЗМЕНА ПРЭЗІДЭНТА — ПАТРАБАВАННЕ ЧАСУ

**З усёй выразнасцю праявілася, што больш чым сямігадовае знаходжанне Аляксандра Лукашэнкі на пасадзе прэзідэнта краіны не стала фактарам умацавання яе нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту, прыстойнага незалежнага развіцця.**

**Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар**



Наадварот, усе гэтыя гады да берагоў напоўнены пошукамі шляхоў ліквідацыі палітычнай незалежнасці Беларусі праз яе дзяржаўнае аб'яднанне з Расіяй. Такі бессаромны гандаль нацыянальным суверэнітэтам беларускага народа хлусліва падаецца як акт праявы яго непарушнай дружбы з расіянамі, апраўдваецца надуманымі інтарэсамі славянскага адзінства. На самай жа справе паталагічная боязь дзяржаўнага суверэнітэту сучаснай прэзідэнцкай уладай прадыктавана яе няздольнасцю забяспечыць краіне нармальнае сацыяльна-эканамічнае і духоўнае жыццё, што ўсё больш і больш выразна праяўляецца на практыцы. Менавіта апошняя сямігодка ўжо трывала ўвайшла чорнай старонкай у айчынную гісторыю як перыяд нечуванай алкагалізацыі і нікацінізацыі насельніцтва, у тым ліку яго жаночай і маладзёвай частак.

Як ніколі раней, шматлікай катэгорыяй сталі бамжы, якімі запоўнены нават вуліцы беларускай сталіцы. Няздольнасць дзяржавы пакласці канец пералічаным і іншым падобнага роду адмоўным сацыяльным з'явам спрычынілася да таго, што апошнімі гадамі стала няўхільна скарачацца агульная колькасць насельніцтва краіны. У дваццатым стагоддзі такое назіралася толькі падчас першай і другой сусветных войнаў! Сутыкнуцца з такім дэмаграфічным бедствам у мірны час — гэта найвялізная трагедыя! За яе абавязкова павінны несці адказнасць асобы, што стаяць ля стырна дзяржаўнай улады. І такое рана ці позна немінуча адбудзецца. Відаць, таму, каб унікнуць такой адказнасці, усенароднага абурэння і гневу, нашыя сучасныя палітычныя дзеячы стрымгалоў імкнуцца здаць пакуль што яшчэ незалежную Беларусь Расіі, схавацца там на неабсяжных прасторах, а калі пашанцуе, заняць у яе ўладных структурах любое месца, нават на два-тры рангі ніжэй, чым у сябе дома.

Калі нявырашанасць дзяржаваю сацыяльна-эканамічных праблем вядзе да пагаршэння матэрыяльнага дабрабыту, з чым напрамую звязаны павышэнне ўзроўню смяротнасці, скарачэнне працягласці жыцця людзей, гэта значыць ідзе працэс біялагічнага вымірання насельніцтва, дык заганы нацыянальнай палітыкі гэтай жа дзяржавы маюць сваім непазбежным вынікам разбурэнне этнічных асноў беларускага народа. Бязлітасна рушыцца ўсё лепшае, дарагое і адметнае, што стагоддзямі стваралася беларусамі, прычым нават і ў далёка неспрыяльныя для іх гады знаходжання ў складзе Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі і СССР. Будучы з ласкі самой дзяржавы і высокага праваслаўнага духавенства сваё жыццё на чужых культурна-моўных традыцыях, ён натуральна перастае ўсведамляць сябе самабытнай нацыяй, нічога не дадае да яе этнакультурнай адметнасці. Культурнае жыццё, якое ладзіцца афіцыйнымі ўладамі і фінансуецца дзяржавай, не было яшчэ ніколі такім зрусіфікаваным, як сёння. І думаць, што такое адбываецца "па просьбе народа", ці стыхійна, ніяк не выпадае. Дзеля ўзрастання ролі рускага фактару ў дзяржаўным сектары культуры былі прыкладзены велізарныя намаганні прэзідэнцкай улады, убуханы каласальныя фінансавыя сродкі. Умацаванню пазіцый рускай культуры на Беларусі цалкам падпарадкаваны ўсе мерапрыемствы, звязаныя з арганізацыяй і правядзеннем "Віцебскага базара". З вуснаў вядучай ад Беларусі нават і слова не пачуеш на роднай мове. Слаба гучыць яна і падчас выступлення артыстаў.

Моцна ўразіла наступнае. Сёлета, у жніўні, беларуская нацыянальная літаратура панесла велізарныя страты: з жыцця пайшлі Вячаслаў Адамчык, Алесь Махнач, Віктар Каваленка. Высокія афіцыйныя ўлады выказалі свае спачуванні толькі па апошнім з названых. Прычым толькі ў малатыражнай газеце творчай інтэлігенцыі "Літаратура і мастацтва". Прамаўчалі і дзяржаўныя электронныя сродкі масавай інфармацыі. А раз так, належным чынам не адрэагавалі на гэтую трагедыю органы ўлады тых раёнаў, дзе нарадзіліся пісьменнікі, якіх забрала смерць. Ганьба! На добры лад, уся тэрыторыя Беларусі, што да 17 верасня 1939 г. знаходзілася ў складзе Польшчы, павінна была хвілінай маўчання адзначыць развітанне са сваім сынам, ураджэнцам Гарадзеншчыны Вячаславам Адамчыкам, у мастацкіх творах якога праўдзіва і маштабна паказана нялёгкае жыццё нашага народа на гэтых абсягах Бацькаўшчыны ў міжваенны перыяд, за першымі Саветамі і ў гады фашысцкай акупацыі.

І раней, і зараз дзяржаўны механізм Беларусі функцыянуе, не маючы на сваім узбраенні нацыянальнай ідэі, гэта значыць працуе ўпоцемкі. Ніхто іншы, як менавіта сама ўлада, не нясе такой адказнасці за поўнае занядбанне нацыянальнай ідэі на сучасным этапе. За сем гадоў з гакам ідэалагічны апарат дзяржавы так і не вызначыў ні бліжэйшай, ні аддаленай перспектывы этнакультурнага развіцця беларускага народа. У выніку шараговыя масы так і не ведаюць, як павінны развівацца беларусы: умацоўваць, узбагачаць свой прыродны нацыянальна-культурны патэнцыял ці працягваць па-ранейшаму пад кіраўніцтвам чыноўнікаў размываць яго рускімі духоўнымі каштоўнасцямі, з тым каб хутчэй страціць сваю этнічную самабытнасць і цалкам насадзіць сябе на рускі капыл.

У наш час Беларусь з'яўляецца адзінай у Еўропе, а можа, і ў Азіі, дзяржавай, у якой няма канцэпцыі нацыянальнай ідэі. Таму, кажучы словамі нашага Апостала нацыянальнага Адраджэння Янкі Купалы, "і ўдзень мы блудзім". Урады ўсіх цывілізаваных краін ужо даўно зразумелі, што нацыянальная ідэя — гэта велізарнейшая сілішча і, дзякуючы такому разуменню, без асаблівых цяжкасцяў вырашаюць надзённыя пытанні эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця сваіх тытульных народаў. Мо не так вінаваты б быў наш сучасны ўрад, калі б у галовах найлепшых людзей беларускага народа яшчэ да сённяшняга дня не сфарміравалася сама нацыянальная ідэя. Як ужо адзначалася вышэй, з гэтым у нас няма аніякай праблемы. Нацыянальнай ідэі прысвечаны шматлікія працы беларускіх грамадскіх і культурных дзеячаў, навукоўцаў, напісаныя нават не адно дзесяцігоддзе таму назад. Ёсць каму ўзбагачаць яе і сёння. Толькі бяда, дзяржава не жадае нацыянальнай актыўнасці народа, без якой ён проста не здольны на вялікія здзяйсненні. Цалкам пагаджаюся з меркаваннем вядомага беларускага рэлігійнага і культурнага дзеяча Вінцэнта Гадлеўскага, "што ніякая філасофская ідэя не можа прабудзіць у чалавеку столькі жыццёвых сілаў, колькі прабуджае добра зразумелая нацыянальная ідэя!"

Адсутнасць беларускай нацыянальнай ідэі ў цяперашняй нашай дзяржавы не дае аніякіх падстаў называць яе нацыянальнай, пераканаўчым доказам найбольш за ўсё можа служыць моцна дэградзіраванае культурна-моўнае жыццё карэнных жыхароў краіны. Яны ўсё больш і больш адрываюцца ад сваіх духоўных вытокаў і далучаюцца да стандартаў суседняй Расіі. Не знаходжу страшнейшай трагедыі: на працягу стагоддзяў весці ўпартае змаганне, а таму і не паддацца асіміляцыі, якую на землях Бацькаўшчыны праводзілі чужацкія палітычныя рэжымы, а зараз гінуць ад рук уласнай улады, якая не прызнае, усяляк дыскрымінуе прыродны культурна-моўны патэнцыял сваёй тытульнай нацыі — беларусаў. Сам прэзідэнт не толькі не ўжывае ў сваёй службовай дзейнасці іх мову, а, наадварот, нават публічна ганьбіць яе. Еўропа з падобнай з'явай яшчэ не сутыкалася. Такога не дазвалялі сабе нават асобы, якіх запрашалі тыя ці іншыя краіны да сябе з мэтай стаць іх дзяржаўным правадыром. Да прыкладу, венгр па паходжанні Стэфан Баторый, які на працягу 1576—1586 гг. з'яўляўся вялікім князем літоўскім і каралём польскім, ні разу не дазволіў сабе сказаць хоць штосьці адмоўнае на адрас польскай мовы, якою, дарэчы, не валодаў. Гаворачы ўвесь час па-лацінску, ён у атачэнні польскіх палітычных дзеячаў, каб быць паважаным і блізкім для іх, вельмі любіў ужываць самыя трапныя польскія выразы. Ад нашых жа палітычных лідэраў ніколі не даводзіцца чуць беларускае слова. Іх варты жалю прыклад намертва пасяліўся ў асяроддзі не толькі раённай (гарадской), але і сельсавецкай вертыкалі.

Калі строга і справядліва падысці да сямігадовага прэзідэнцкага кіравання краінай, не баючыся памыліцца, можна заявіць, што яно не адбылося. З-за дэфектнай, нізкапробнай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі карэнным чынам парушыліся папярэднія кансалідацыйныя працэсы ў беларускім народзе. Замест умацавання яго прыродных культурна-моўных асноў дзяржава на чале са сваім прэзідэнтам з зайздроснай паслядоўнасцю і нечуванай настойлівасцю праводзіла палітыку па іх дэнацыяналізацыі.

Рускі народ развіваецца толькі на адной культурна-моўнай аснове — рускай, немцкі — на нямецкай, французы — на французскай... Не сумняваюся, што ні адзін з іх не пацягнуў бы, каб урад навязаў яму яшчэ адну культурна-моўную аснову. Задыхнуўся б, як задыхаецца беларускі народ, які з прычыны адпаведнай палітыкі дзяржавы вымушаны ва ўсё большых і большых маштабах жыць паводле духоўных канонаў Расіі, навекі адрываючыся ад сваіх прыродных. За ўсё гэта трэба будзе адказаць перад гісторыяй нашым палітыкам і ў найбольшай меры — самым высокім. Яны ніяк не хочуць лічыцца з тым, што у складзе Расіі беларусы будуць знаходзіцца ў ранзе яе малых народаў. Які наш будзе лёс, навочна паказваюць прыклады этнакультурнага вымірання многіх нярускіх нацый і народнасцяў Паволжа, Крайняй Поўначы, і Далёкага Усходу. Абсалютная бальшыня з іх ужо даўно страціла магчымасць будаваць сваё жыццё паводле ўласных культурна-моўных традыцый. Такое абавязкова напаткае беларусаў, тым больш што ў іх шмат чаго агульнага ў культуры і мове з рускімі. Такая агульнасць ёсць адзін з самых спрыяльных фактараў асіміляцыі, і, зразумела, закране яна не рускіх, а беларусаў, якія ў параўнанні з першымі вызначаюцца вельмі нізкім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці, не забяспечылі па віне дзяржавы належнага месца сваёй культуры і мове на іх гістарычнай тэрыторыі.

У любой дэмакратычнай краіне пасля сур'ёзных няўдач ва ўсіх найважнейшых сферах эканомікі, пра што так багата пераканаўчых фактаў дае неафіцыйны друк, пасля такіх страшэнных заганаў у сацыяльна-палітычным і нацыянальна-культурным жыцці, уся структура прэзідэнцкай улады неверагодна як чакала б хутчэйшага заканчэння тэрміну сваіх паўнамоцтваў, з тым каб перадаць іх іншым у надзеі, што магчыма ім удасца вывесці краіну з тупіку. На вялікі жаль, нічога падобнага не назіраецца ў нас. Наадварот, афіцыйныя ўлады з дапамогай цалкам залежных ад іх сродкаў масавай інфармацыі ўсяляк імкнуцца ўтаіць ад народа праўду, даказаць, што ў нас і не так блага жывецца беларусу, таму ў час чарговых прэзідэнцкіх выбараў трэба галасаваць толькі за цяперашнюю галаву дзяржавы. А.Лукашэнкі былі два лішнія да прэзідэнцкага тэрміну гады, каб паказаць, што ён са сваёй камандай у стане ўпэўнена пераадолець атрыманую ім ад папярэдняга палітычнага рэжыму бедную спадчыну і вывесці краіну на магістральны шлях сацыяльна-эканамічнага і духоўнага прагрэсу, спыніць далейшую нацыянальную дэградацыю тытульнага народа. Нічога падобнага не атрымалася. Таму развязванне гэтых лёсавызначальных праблем трэба даверыць новым палітыкам, бо сённяшнія ўжо поўнасцю вычарпалі свой рэсурс. Не сумняваюся, што для заняцця пасады прэзідэнта меў дастаткова арганізатарскіх здольнасцяў любы з тых апазіцыянераў сучаснаму палітычнаму рэжыму, якім злыя, цёмныя сілы не далі дажыць да нашых дзён (даю ў алфавітным парадку): Віктар Ганчар, Генадзь Карпенка, Юрый Захаранка. Удзельнічаць у барацьбе за прэзідэнцкае крэсла маглі б многія з тых, хто, каб не быць пакараны за апазіцыйную палітычную дзейнасць, з'ехаў за мяжу ці апынуўся там супраць сваёй волі. Маюць рацыю, што ўступілі ў саперніцтва з Аляксандрам Лукашэнкам за тытул прэзідэнта Уладзімір Ганчарык і Сяргей Гайдукевіч. У іх праграмах ёсць даволі пазітыўныя накірункі, асабліва ў галіне нацыянальна-культурнага жыцця, якія на працягу больш чым сямі гадоў цалкам ігнараваліся сучаснымі ўладнымі структурамі.

З палітычнымі пераменамі чалавецтва заўжды звязвала і звязвае ўсё самае лепшае ў сваім жыцці. Няхай 9 верасня яны прыйдуць і ў наш нацыянальна абяздолены край, нарэшце дапамогуць яго людзям вярнуцца да ўласных прыродных духоўных вытокаў, распачаць ладзіць сваё жыццё ў родным культурна-моўным рэчышчы, што абавязкова паспрыяе паспяхова вырашыць комплекс усіх астатніх эканамічных, сацыяльных і дэмаграфічных праблем, станоўча адаб'ецца на ўмацаванні дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

